# Голас Радзімы

№ 2 (2144)
11 студзеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



І. АСОБУЮ атмасферу правінцыяльнага горада пісьменнікі, журналісты, проста вандроўнікі апісвалі неаднойчы. Уласцівыя яму спакой, дружалюбнасць, увагу адзін да аднаго добра адчуваюць прь езджыя, але значна ў большай ступені такія прыкмет ўплываюць на стыль жыцця мясцовых людзей, хаця не ўсе гэта і ўсведамляюць. Многія з іх на пытанне — чым адметны ваш горад, адкажуць: ён звычайны. Але не трэба спяшацца згаджацца з такім меркаваннем. Той жа чалавек, адлучыўшыся на працяглы час з дом хутчэй за ўсё не адзін раз згадае яго з заміланнем. І не толькі таму, што родныя мясціны, якія б ні былі, заўсёды дарагія. Але ёсць непаўторная, прыцягальная чароўнасць у абліччы невялікіх старых беларускіх гарадкоў, такіх, напрыклад, як Ваўкавыск.

НА ЗДЫМКАХ: панарама Ваўкавыска; Еўдакім ПЕТУХОЎ — адзін са старажылаў горада, ён нарадзіўся ў 1914 годзе і добра памятае многае з яго гісторыі; стары квартал Ваўкавыска.

(Заканчэнне фотарэпартажу пра Ваўкавыск глядзіце на стар. 8).





ПЛЕНУМ

## ПЕДАГОГІКА МІРУ

Як выхаваць дзяцей інтэрнацыяналістамі, як навучыць іх гармоніі аднасін з прыродай, людзьмі і з самімі сабой? Гэтыя пытанні ў навуковым і практычным плане абмеркаваў Савецкі камітэт руху «Педагогі за мір і ўзаемаразуменне», пленум якога адбыўся ў Мінску. Яго ўдзельнікі падвялі вынікі сваёй дзейнасці і намецілі перспектывы будучай работы.

Шырокі спектр асацыяцый, якія дзейнічаюць у рамках руху. Асацыяцыя «Педагогі за экалагічную культуру» арганізуе міжнародны экалагічны збор на Байкале для выратавання унікальнага возера. Асацыяцыя «Педагогі за правы чалавека» плануе распрацаваць сумесна з ЮНЕСКО праграму і навучальныя дапаможнікі па сваёй тэматыцы. Адзін з самых цікавых праектаў асацыяцыі «Культура і адукацыя» — распрацоўка мадэлі культурнага асяроддзя дзіцячага дома. У іншых асацыяцый не менш цікавае жыццё і планы.

Педагогі ўсіх звенняў адукацыі павінны дапамагаць кожнаму чалавеку ўсвядоміць сябе часцінкай чалавецтва. Такая ключавая ідэя цэнтра даследаванняў педагогікі міру, напрамкі работы якога таксама абмяркоўвалі ўдзельнікі пленума.

КАНФЕРЭНЦЫЯ

## ПРАЗ 62 ГАДЫ

62 гады мінула з таго часу, як беларускія краязнаўцы ўпершыню сабраліся на свой з'езд. Потым былі доўгія гады, калі краязнаўчая навука праследавала далёкія ад свайго прызначэння мэты. Нямала сапраўдных беларускіх гісторыкаў, краязнаўцаў, археолагаў загінула ў сталінскі перыяд. Мінутай маўчання іх памяць ушанавалі дэлегаты рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі краязнаўцаў «Праблемы беларускага краязнаўства», якая прайшла ў мінскім Доме літаратара.

У ліку задач канферэнцыі—адрадзіць Беларускае краязнаўчае таварыства, прыняць яго статут, даручыць кіруючаму савету таварыства сабраць звесткі пра рэпрэсіраваных у 30-я гады краязнаўцаў і звярнуцца ў адпаведныя органы з мэтай іх рэабілітацыі.

Старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, намеснік старшыні сойма БНФ М. Ткачоў, вучоныя А. Мальдзіс, М. Чарняўскі і іншыя з болем гаварылі пра праблемы краязнаўства рэспублікі. «Мы павінны зрабіць усё, каб нашы дзеці любілі сваю радзіму, паважалі яе культуру. Мы павінны ісці наперад, азіраючыся назад, каб не стаць бязроднымі,..»—прагучала на канферэнцыі.

Асаблівы інтарэс аўдыторыі выклікала гаворка пра вытокі нацыянальнай сімволікі.

Выступленні і навуковыя даклады, абмен вопытам, «круглыя сталы», прагляд кінафільмаў па краязнаўчай тэматыцы—вось далёка не поўны пералік таго, чым займаліся ўдзельнікі канферэнцыі.

ДАСЛЕДАВАННІ

## ЛЕКАР — МЕЛАНІН

Людзям, якія падвяргаюцца ўздзеянню чарнобыльскіх радыенуклідаў, дапамога пазбегнуць небяспечнага для здароўя апрамянення пігмент меланін, які выпрацоўваецца арганізмам для абароны ад уздзеяння сонечнай радыяцыі. Да такога вываду прыйшлі вучоныя Інстытута генетыкі і цыталогіі Акадэміі навук Беларусі, якія завяршылі даследаванні ўласцівасцей гэтага прыроднага радыепратэктара.

Вучоныя ўстанавілі, што гэта зусім бяспечнае злучэнне можна выдзяляць з расліннай сыравіны ці сінтэзаваць і дадаваць у прадукты харчавання. Дзякуючы такой падтрымцы, супраціўляльнасць арганізма радыенуклідам павялічваецца. Гэта пацвердзілі доследы на лабараторных жывёлах. На думку вучоных, навукова-даследчыя інстытуты медыцынскага профілю павінны пачаць шырокія клінічныя выпрабаванні навінкі і па іх выніках аператыўна арганізаваць прамысловую вытворчасць.

ЭКАЛОГІЯ І ВЫТВОРЧАСЦЬ

## БЕЗ ШКОДНЫХ ВЫКІДАЎ

Пінскі біяхімічны завод—буйнейшае ва ўсесаюзнай галіне прадпрыемства, якое пастаўляе сельскай гаспадарцы каштоўную вітамінізаваную кармавую дабаўку—рыбафлавін Б-2. Ён эфектыўна скормліваецца буйной рагатай жывёле, парасятам і хатняй птушцы. Цяпер, калі асабліва востра стаіць экалагічная праблема, шэраг прадпрыемстваў галіны перапрафілюецца ці закрываецца зусім. Што тычыцца Пінскага біяхімічнага завода, то гэта вымушаная, крайняя мера ніякіх адносін да яго не мае. Сведчаннем таму можа служыць наступны факт: за ўсе гады работы прадпрыемства тут не адзначана літаральна ніводнага выпадку прафесійнага захворвання. У тэхналогіі вытворчасці няма ні грама хімікатаў. Рыбафлавін атрымліваюць выключна мікрабіялагічным шляхам. Галоўнае, над чым цяпер трэба працаваць у плане экалогіі,—ліквідацыя спецыфічнага паху, што спадарожнічае вытворчасці. І хаця сам па сабе гэты пах для здароўя чалавека абсалютна бясшкодны, на заводзе працуе пылаўлоўнік. Ён ачышчае 99 працэнтаў выкідаў. Тэхнолагі прадпрыемства падбіраюць цяпер біялагічныя фільтры для дэзадарацыі ўсяго адпрацаванага паветра.

ДА ПЕНСІІ

## НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК

Ідучы на заслужаны адпачынак, Наталля Кірычэнка нават не думала, што разам з пенсійнай кніжкай ёй уручаць вялікую грашовую суму. Навагодні падарунак—тры тысячы рублёў—паднёс ёй Светлагорскі сырзавод. Такую дапамогу савет працоўнага калектыву Гомельскага аб'яднання мяса-малочнай прамысловасці, куды ўваходзіць і названы завод, стане выдзяляць усім, хто прапрацаваў у фірме дастаткова вялікі тэрмін.

Рашэнне савета працоўнага калектыву абяцае льготы не толькі ветэранам: кожны работнік, ідучы ў чарговы адпачынак, мае права на дадатковы месячны аклад. Аб'яднанне ўжо ўзяло на сябе палавіну расходаў за харчаванне ў рабочых сталовых. А пасля падвядзення вынікаў года тут будуць разглядаць пытанне пра магчымасць аплаты за кошт прадпрыемстваў жылля, а таксама месцаў у дзіцячых садах.

МУЗЫКА

## ЗАГУЧАЛА «АНТАЛОГІЯ» ШЫРМЫ

Хор Дзяржтэлерадыё БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР В. Роўды завяршыў агучванне двухтомніка «Анталогія беларускіх народных песень» пад рэдакцыяй народнага артыста СССР Р. Шырмы.

Карпатлівая, настойлівая праца працягвалася амаль чвэрць стагоддзя—з 1965 года, пасля прыходу ў хор прафесара В. Роўды. 213 беларускіх народных песень, што складаюць «Анталогію», захоўваюцца цяпер у фондах рэспубліканскага радыё. І не проста захоўваюцца. Гэтыя песні гучаць па радыё, з тэлевізійных экранаў, у канцэртных праграмах не толькі ў нашай рэспубліцы, але і далёка за яе межамі.

МЕДЫЦЫНСКАЯ ДАПАМОГА



У прасторны трохпавярховы будынак перасялілася падстанцыя хуткай дапамогі, якая абслугоўвае насельніцтва Першамайскага і часткова Савецкага раёнаў Мінска. Тут на кожным паверсе светлыя холы, ёсць пакоі адпачынку, гігіены, душавыя, свой гараж на 15—16 брыгадных машын. Усё гэта дазволіць работнікам падстанцыі значна павысіць узровень абслугоўвання мінчан.

**НА ЗДЫМКУ:** фельчар па прыёму і перадачы выклікаў Таццяна **АНДРУШЧАНКА** афармляе выклік урачу-педыятру Веры **МАСЛАКОВАЙ**.

ЗАХАПЛЕННІ

## ЭКСПАНАВАЛІСЯ КАЛЕКЦЫІ

Незвычайным быў вернісаж у адной з выставачных залаў Віцебска. Мастакі выставілі свае калекцыі. Іх захапленні самыя разнастайныя. На стэндах манеты, значкі, маркі, грашовыя знакі, медалі, жэтоны і многае іншае.

Аляксандр Гвоздзікаў, напрыклад, калекцыяніруе самавары. І яго экспазіцыя ўсяго толькі частка мноства гэтых прадметаў быту, якія сталі ўжо рэліквіямі. Ва Уладзіміра Вальнова хобі іншае—прадметы быту паўночных раёнаў краіны. Яго калекцыя—вынік экспедыцый у Карэлію, Архангельскую вобласць. Журналіст Анатоль Шыловіч ужо многа год збірае экзатычныя грашовыя знакі, а прадставіў калекцыю ўпершыню.

Віцебскі краязнавец Аркадзь Падліпскі на сваіх стэндах выставіў паштоўкі, значкі, медалі, прысвечаныя Айчыннай вайне 1812 года. І застаецца толькі здзіўляцца, як ацалелі шкляныя бутэлькі з незвычайнай калекцыі Вячаслава Алехніка. Па іх маркіроўцы, штэмпелях можна даведацца, якімі фабрыкантамі былі яны адліты і якімі былі бакалейныя крамы старога Віцебска. Уся экспазіцыя носіць пазнавальны характар.

ПА ПРАГРАМЕ «ЗДАРОЎЕ»



Штодзённа 60-80 чалавек карыстаюцца паслугамі новага фізкультурна-аздараўленчага камбіната Бабруйскага завода трактарных дэталей і агрэгатаў. У абедзенны перапынак і пасля работы тут можна згуляць у тэніс і більярд, шахматы і шашкі, заняцца рытмічнай і атлетычнай гімнастыкай, а пасля саўны і басейна — выпіць гарачага чаю ў пакоі адпачынку. На прадпрыемстве прыкметна скарацілася колькасць дзён, прапушчаных па хваробе.

**НА ЗДЫМКУ:** у пакоі адпачынку фізкультурна-аздараўленчага камбіната Бабруйскага завода трактарных дэталей і агрэгатаў.

ПЕРАДАДЗЕНА ВЕРУЮЧЫМ

## ПА СВАЙМУ ПРАМОМУ ПРЫЗНАЧЭННЮ

Кафедральны сабор—арыгінальны помнік царкоўнага дойлідства—перададзены праваслаўнай абшчыне Магілёва.

Гэты храм быў пабудаваны на пачатку дваццатага стагоддзя на сродкі веруючых. У 1960 годзе мясцовыя ўлады перадалі яго магілёўскаму заводу «Строммашына» пад клуб. Улічваючы просьбы прыхаджан, сесія Магілёўскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, савет працоўнага калектыву прадпрыемства прынялі рашэнне вярнуць культавы будынак веруючым. На сабраныя абшчынай сродкі ён адрамантаваны і ўжо скарыстоўваецца па свайму прамому прызначэнню. У Магілёўскай епархіі, якая была нядаўна створана, дзейнічаюць 24 храмы.

ІНФАРМАЦЫЯ

## РАЁННАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

На пачатку новага года больш чым 5 тысяч жыхароў Савецкага раёна горада Мінска сталі гледачамі першай перадачы мясцовага кабельнага тэлебачання.

Ініцыятары яго стварэння—работнікі раённага камітэта партыі. У адрозненне ад кааператыўных мясцовых відэаканалаў, якія ўжо з'явіліся ў некаторых рэгіёнах краіны, арганізатары кабельнага тэлебачання ў Савецкім раёне лічаць галоўным не пагоню за прыбыткам, а паляпшэнне інфармаванасці насельніцтва. Не сакрэт, што многія людзі ведаюць намнога больш пра тое, што адбываецца ў іншых краінах, чым пра падзеі ў сваім раёне. У праграму тэлебачання плануецца ўключаць мясцовыя паведамленні, выступленні народных дэпутатаў. Актыўны ўдзел у стварэнні і падрыхтоўцы праграм могуць прыняць і самі жыхары.

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

## ТАМ, ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ ПАЛАНЕЗ

Першапачатковы выгляд набывае дом-сядзіба вядомага польскага кампазітара Міхала Агінскага ў вёсцы Залессе непадалёку ад Смаргоні. Завершаны першы этап яе рэканструкцыі, які працягваўся тры гады.

Па спецыяльнаму праекту аднаўлены ўнутраная частка двухпавярховага будынка каменнага палаца, размешчаныя побач пабудовы. На чарзе—рэстаўрацыя вадзянога млына і сажалкі, старадаўняга парку, дзе паявяцца маляўнічая арка, альтанкі, пешаходныя дарожкі.

НОВАЕ АБ'ЯДНАННЕ

## ВЫВУЧАЮЧЫ РОДНЫЯ КАРАНІ

«Бацькаўшчына» — так называецца гісторыка-культурнае аб'яднанне, створанае пры Салігорскім краязнаўчым музеі. У яго ўвайшлі рабочыя, служачыя, тэхнічная інтэлігенцыя горада, усе, каго хвалюе гісторыя беларускага народа, яго самабытная культура, мова.

У членаў аб'яднання нямала цікавых задумак, частка якіх ужо ажыццяўляецца. Гэта сустрэчы з гісторыкамі, публіцыстамі, пісьменнікамі, экскурсіі ў музеі і памятныя месцы, экспедыцыі па раёну.

Новае аб'яднанне актыўна прапагандуе беларускую літаратуру, музыку, фальклор, розныя народныя традыцыі і звычаі, удзельнічае ў рэалізацыі гарадской праграмы «Родная мова».

## *ЯКІЯ МЭТЫ СТАВІЦЬ СЁННЯ ПРАФСАЮЗНЫ РУХ*

# ІДЗЕ ПРАЦЭС АБНАЎЛЕННЯ

**Адной з праяў перабудовы ў грамадска-палітычным жыцці, наогул у савецкім грамадстве, можна з упэўненасцю лічыць актывізацыю прафсаюзнага руху. Ні для кога не сакрэт, што доўгія гады прафесійныя саюзы былі нібыта паслухмяным дадаткам да партыйных і гаспадарча-адміністрацыйных органаў, практычна не мелі ўласнай пазіцыі і свайго голасу. І раптам на шостым пленуме ВЦСПС нібыта прачнуліся... Што ж падштурхнула, якімі вачыма сёння глядзяць прафсаюзы на свет? З гэтага і пачалася наша гутарка са старшынёй Белсаўпрофа, народным дэпутатам СССР Уладзімірам ГАНЧАРЫКАМ.**

*— Дык што ж здарылася, Уладзімір Іванавіч? Колькі гадоў мы згадвалі пра існаванне прафсаюзаў толькі тады, калі мелі патрэбу ў пуцёўцы ў дом адпачынку для сябе або ў летні піянерскі лагер для дзіцяці, атрымлівалі грошы па лістку непрацаздольнасці, і раптам такі ўздым актыўнасці, і менавіта палітычнай?*

— Усё правільна. Сапраўды, на працягу дзесяцігоддзяў прафсаюзы не вылучаліся актыўнасцю і паступова непазбежна гублялі аўтарытэт сярод працоўных.

Але, як сёння здаецца, гэта не столькі віна прафсаюзаў, колькі бяда. Яны проста не маглі ў тых умовах мець іншы твар, уся сістэма арганізацыі жыцця грамадства была скіравана на падаўленне якой-небудзь самастойнасці з боку грамадскіх арганізацый, у тым ліку і такой традыцыйна магутнай як прафесійныя саюзы. І яны сталі састаўной часткай сістэмы, якая на той час панавала ва ўсім.

Сёння становішча мяняецца. Так, безумоўна, пакуль нельга сказаць, што жыццё наша палепшылася, але яно ўжо не тое, як 5-6 год назад, ды і мы самі сталі іншымі. Закрануў працэс абнаўлення і прафсаюзны рух. Але не раптам, і не з таго шостага пленума. Мы ў сябе ў Беларусі пленум, падобны на ўсесаюзны, правялі ўжо год назад.

*— Што ж паслужыла прычынай?*

— Ідэя ішла, як кажуць, знізу, нас сапраўды падштурхнула незадаволенасць людзей жыццём і станам прафсаюзнай дзейнасці.

Так, раней функцыі прафесійных саюзаў зводзіліся ў асноўным да вырашэння сацыяльна-бытавых пытанняў — тыя ж пуцёўкі на адпачынак, невялікая матэрыяльная дапамога і то па магчымасці. А ў астатнім не маглі ні заявіць, ні адстаяць сваю пазіцыю — яе, часцей за ўсё, і не было. Хаця, павінен сказаць, намінальна сярод прафсаюзных значылася каля 70 функцый. Але кожны раз каманднa-адміністрацыйная сістэма адсоўвала прафсаюзы на другі, а бывала і яшчэ далейшы план, і ўсё вярталася на кругі свае. І ў выніку тое, дзеля чаго і існуюць прафесійныя саюзы, — абарона прафесійных інтарэсаў працоўных, не выконвалася.

*— Але ці не пагражае сёння прафсаюзам іншая крайнасць: падладжванне да часта не зусім поўна інфармаваных мас, якія не заўсёды здольны адразу правільна ацаніць якую-небудзь сітуацыю, напрыклад, тыя ці іншыя непапулярныя меры па аздараўленню эканомікі, што прапануе ўрад у якасці горкага, але неабходнага лякарства?*

— Я так не лічу. Прафсаюзы ў сваёй рабоце зрабілі рэзкі крэн у бок абароны законных інтарэсаў працоўных. Я не магу назваць гэта падладжваннем. Тут вельмі сур'ёзная, нават кроўная справа. Здараецца, можна пачуць меркаванне, што працоўных няма ад каго абараняць. На жаль, гэта не так. Парушэнняў іх правоў і дасюль нямала. Асабліва з боку адміністрацыйна-гаспадарчых органаў.

Але наша пазіцыя часам проста скажаецца. А ўзровень жыцця савецкіх людзей мы абавязаны абараняць. Дарэчы, хаця нашы патрабаванні, выстаўленыя на шостым пленуме ВЦСПС, вельмі рэзка крытыкаваліся некаторымі дэпутатамі і прадстаўнікамі ўрада краіны, у выніку сесія Вярхоўнага Савета СССР усё-такі прыняла шэраг пастаноў, у якіх фактычна замацавала іх. Гэта тычыцца і стрымлівання росту цэн, і павелічэння пенсій, водпускаў, і кантролю за дзейнасцю кааператываў.

*— Такім чынам, ці можна сёння гаварыць пра пэўныя разыходжанні прафесійных саюзаў і партыі, прафесійных саюзаў і Вярхоўнага Савета?*

— Выконваць функцыі абаронцы працоўных — гэта ні ў якім разе не азначае проціпастаўленне прафсаюзаў партыі. Больш правільна згадваць пра магчымыя разыходжанні ў адносінах да розных сітуацый. Наогул, я супраць тэзіса аб поўнай нейтральнасці прафсаюзнага руху, але абсалютна ўпэўнены, што нашы ўзаемаадносіны не павінны быць такімі, як здаралася раней. На жаль, прыклады ўмяшання, скажам, некаторых райкомаў партыі ў жыццё прафсаюзаў пакуль засталіся. І гэта выклікае яшчэ большую занепакоенасць, таму што тым самым партыйныя органы менш надаюць увагі і энергіі сваім спецыфічным абавязкам, а гэта непазбежна вядзе да іх паслаблення і выхаду на палітычную арэну іншых сіл. [illegible] здаецца, што даўно прыспела пар[illegible]дынальна змяніць формы і метады палітычнага ўплыву партыі на грамадскія структуры. А каб адстойваць уласныя пазіцыі, лічым мэтазгодным мець сваіх прадстаўнікоў, праваднікоў нашых ідэй і задум, сярод членаў Вярхоўнага Саве[illegible]эспублікі.

*— І што ж, зусім [illegible] іх прэтэнзій да ўрада беларускія прафсаюзы не маюць?*

— Не, мы не адмаўляемся ад практыкі канкрэтных патрабаванняў. Без гэтага не абысціся, калі рэальна абараняць правы і інтарэсы працоўных.

Напрыклад, мы зыходзім з непахіснага прынцыпу: лепш працуеш, лепш жывеш. І таму прафсаюзы маюць канкрэтныя заўвагі да ўрада. Напрыклад, у сувязі з большай, у параўнанні з іншымі рэгіёнамі краіны, незабяспечанасцю Беларусі бытавымі халадзільнікамі, тэлевізарамі, хаця самі іх і вырабляем. Падобная сітуацыя з рэальнымі даходамі. Тут у нас ёсць пэўныя разыходжанні ў ацэнцы сітуацыі. Трэба больш актыўна абараняць уласны рынак і на ўзроўні рэспублікі, і на ўзроўні прадпрыемства.

*— Уладзімір Іванавіч, як жа можна сфармуляваць галоўную мэту сучаснага прафсаюзнага руху?*

— Мне здаецца, яна ўжо акрэслена: абарона інтарэсаў і правоў працоўнага чалавека. І перш за ўсё ў працэсе працы. Тут ідзе гаворка і пра эканамічныя нарматывы, якія не павінны ўшчамляць магчымасці сацыяльнага развіцця калектываў, і заключэнне калектыўных дагавароў, і пра ўмовы, у якіх людзі працуюць. Дарэчы, у сувязі з апошнім, мы прапануем стварыць эканамічны механізм, які зрабіў бы нявыгаднымі для прадпрыемства дрэнныя ўмовы працы. А ў нас пакуль пераважаюць адміністрацыйныя меры.

*— А чарнобыльская праблема ўваходзіць у кола вашых інтарэсаў?*

— Безумоўна. Чарнобыльская бяда — наша агульная бяда. І пераадолець яе можна толькі агульнымі намаганнямі. Як вядома, сесія Вярхоўнага Савета краіны адобрыла ў першым чытанні прынятую ў Беларусі праграму па ліквідацыі вынікаў аварыі. Для нас жа, прафсаюзных работнікаў, гэта значыць у першую чаргу арганізацыю мерапрыемстваў па аздараўленню людзей, якія адчуваюць на сабе пэўны ўплыў радыяцыі. У 1990-м годзе мы павінны правесці аздараўленне 225 тысяч чалавек з пацярпеўшых раёнаў. Плануем будаўніцтва новых лячэбна-санаторных установ, дамоў адпачынку і ўжо атрымалі спецыяльныя зямельныя надзелы, дзе будзе весціся будаўніцтва. Між іншым не толькі на тэрыторыі нашай рэспублікі, але і на поўдні краіны, на Украіне, у Трускаўцы... Будаваць жа трэба самім.

*— Уладзімір Іванавіч, на шостым пленуме ВЦСПС было выказана рашучае патрабаванне да Урада СССР спыніць рост цэн, фактычна замарозіць іх усё тым жа адміністрацыйным спосабам. Як вы ацэньваеце гэта? Выблытвацца з такой сітуацыі прыдзецца не прафсаюзным лідэрам, а таму ж ураду. Можа больш канструктыўны падыход — пасадзейнічаць справай: напрыклад, пракан[illegible]ляваць, як прадпрыемствы ставяцца [illegible] зыпуску тавараў народнага спажывання, вядуць цэнавую палітыку. Магчыма, гэта быў бы больш плённы шлях для ўтаймавання цэн. А кінуць гучны лозунг у масы вельмі лёгка.*



— Тэрміновa замарозіць усе ц[illegible] — такога лозунгу не было. Меліся н[illegible]зе толькі асноўныя з іх, тыя, з якімі чалавек сустракаецца практычна штодзень. Калі гаварыць пра маю асабістую пазіцыю ў гэтым пытанні, я — за стрымліванне, рэгуляванне цэн. Так, сапраўды, іх можна замарозіць, але тады робяцца нерэальнымі рыначныя эканамічныя ўзаемаадносіны.

Што ж тычыцца паводзін многіх нашых прадпрыемстваў, тут усё абумоўлена існуючым эканамічным механізмам. Менавіта ён і падштурхоўвае да завышэння цэн, знікнення з вытворчасці таннага асартыменту тавараў народнага спажывання. Дарэчы, менавіта так прафсаюзы і ставяць праблему перад урадам. Мне прыйшлося чуць на Лідскім абутковым аб'яднанні: мы б узяліся вырабляць танны дзіцячы абутак, але ж, дзе будзем браць тады грошы на заработную плату? Разумееце, заклікі, угаворы, зварот да сумленнасці — усё гэта добра і трэба. Але зноў-такі павінен працаваць і эканамічны механізм. Без яго ніякія словы не дапамогуць. А гэта справа ўрада. Мне здаецца, трэба не тавары танныя выпускаць, а зарплату павышаць. Але пры нашай фінансавай сітуацыі тут ужо нейкае зачараванае кола атрымліваецца.

*— Якія канкрэтныя рэзервы ў рабоце па абароне правоў і інтарэсаў працоўных вы бачыце? Выводзіць людзей на мітынгі, як гэта адбылося ў Маскве пасля шостага пленума?*

— Не, не такім шляхам. Лічу, што вялікія праблемы не вырашаюцца на мітынгах, хто б іх ні арганізоўваў. Я за кампрамісныя, узаемавыгадныя дагаворы.

Зараз у прафсаюзных камітэтах закончылася справаздачна-выбарная кампанія.У выніку яе да кіраўніцтва прыйшло нямала смелых, рашучых людзей. Менавіта ў іх зацікаўленасці, энергічнасці — наш велізарны рэзерв узмацнення работы. Такія работнікі пакуль будуць мець мала вопыту, але трэба вучыцца. Прафсаюзы будуць узмацняць і юрыдычную, і прававую службу, і эканамічную.

*— Каго ў першую чаргу абараняюць прафсаюзы? Рабочых?*

— Мне больш даспадобы, калі гавораць: працоўны калектыў.

*— А якія праблемы, дарэчы, хвалююць прафсаюз работнікаў культуры?*

— У першую чаргу, безумоўна, надзвычай нізкая зарплата асноўнай масы работнікаў культуры, асабліва на вёсцы. Але і тут сітуацыя будзе выпраўляцца.

*— Вядома, што створаны прафсаюз кааператараў. У каго нарадзілася такая ініцыятыва? Як вы, дарэчы, ставіцеся да кааператываў?*

— Ідэя стварэння прафсаюза кааператараў нарадзілася ў самім кааператыўным руху. Але былі пэўныя меркаванні на гэты конт і ў нас. Такім чынам, стаўлюся я да яе станоўча. Што тычыцца наогул кааператываў, то я таксама выступаю за іх, за роўныя ўмовы для развіцця розных форм вытворчасці. Але рашуча супраць спекуляцыі ў кааператывах, супраць тых кааператараў, якія атрымліваюць свае даходы несумленным шляхам.

Лічу, што патрабаваць ад іх рэалізацыі сваіх тавараў і паслуг па дзяржаўнай цане, гэта нонсенс. Але мы хочам, каб кааператары на справе рабілі нешта карыснае для людзей, а не толькі шукалі шляхі, як тужэй і хутчэй набіць уласную кішэню. Інтарэсы аднаго і другога бакоў павінны спалучацца, толькі тады і будзе плён.

*— Не сакрэт, што на працягу многіх гадоў у прафсаюзны апарат ішло працаваць нямала людзей, у якіх па нейкіх прычынах не ўдалася, напрыклад, партыйная кар'ера. Як цяпер фарміруюцца прафсаюзныя кадры?*

— Сапраўды, так было. Сёння, як правіла, фарміраванне прафсаюзнага кіраўніцтва ідзе на альтэрнатыўнай аснове. Таму што ад прафсаюзнага лідэра, я ўжо казаў пра гэта, патрабуецца значна больш актыўная пазіцыя, чым раней. Таму іншымі сталі і патрабаванні да кадраў.

*— Ваш апарат займае вялікі шматпавярховы будынак. Які ў вас штат? Ці не патрабуе ён скарачэння?*

— Непасрэдны апарат Белсаўпрофа — 90 чалавек, прычым амаль палова з іх займаецца пытаннямі сацыяльнага страхавання. Астатнія — розныя прафсаюзныя службы. Але яны працуюць на прынцыпах гаспадарчага разліку, і самі сябе ўтрымліваюць. А за тыя памяшканні, што займаюць, уносяць арэндную плату.

Скарачэнне штату на 25 працэнтаў у нас нядаўна прайшло.

*— Як вы ставіцеся да тэндэнцый стварэння, так званых, незалежных прафсаюзаў?*

— Адразу скажу: я за адзінства, у рамках якога і можа быць плюралізм поглядаў. У Беларусі была спроба падобнай акцыі ў вадзіцеляў гарадскога аўтамабільнага транспарту. Але яна не мела пэўных вынікаў. Зараз ёсць жаданне сфарміраваць арганізацыю, якая называе сябе «Рабочы саюз Беларусі». Але зноў жа пра нешта канкрэтнае і тут гаварыць пакуль рана.

*— У Беларусі пачалася кампанія па выбарах ў рэспубліканскія і мясцовыя Саветы. Прафсаюзы, як і большасць іншых грамадскіх арганізацый, удзельнічаюць у іх на агульных падставах, без якіх-небудзь асобных квот, як гэта меркавалася спачатку. За галасы выбаршчыкаў трэба будзе змагацца. Ці падрыхтаваныя да гэтага прафсаюзныя камітэты?*

— Платформа ёсць, і яна апублікавана. На гэтых выбарах мы збіраемся рабіць стаўку не толькі на прафсаюзных работнікаў, але на ўсіх, каму блізкая наша праграма. Менавіта такіх людзей і залічым у свой актыў у новых органах улады, на іх зможам і абаперціся.

*— Уладзімір Іванавіч, і, калі вы не супраць, колькі слоў пра сябе...*

— Я родам з Лагойшчыны. Бацька быў настаўнікам, удзельнікам вайны. Маці працавала ў калгасе, зараз пенсіянерка. Закончыў інстытут народнай гаспадаркі ў Мінску, кандыдат эканамічных навук. Працаваў эканамістам у Любанскім раёне. Потым займаўся партыйнай работай, працаваў у Магілёўскай вобласці. І вось ужо некалькі гадоў тут, на пасадзе старшыні Беларускага савета прафсаюзаў.

*— Дзякуй вам за гутарку. Поспехаў у працы.*

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# БРЫГАДЗІР ЯЗЭП КОПАЦЬ

Біяграфія чалавека адлюстроўвае лёс краіны. Ды яшчэ ў пераломныя часы, калі адбываюцца падзеі рэвалюцыйнага характару. Такія падзеі адбыліся на Беларусі ў апошняе дзесяцігоддзе XVIII стагоддзя, калі падчас Вялікай французскай рэвалюцыі Рэч Паспалітую, у склад якой уваходзіла Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жмудскае на правах федэрацыі (а Беларусь складала большую частку Вялікага княства), ахапіў рэвалюцыйны ўздым.

Па словах Ф. Энгельса, канстытуцыя 1791 года, якую абвясцілі ў Рэчы Паспалітай, зрабіла гэтую краіну «авангардам рэвалюцыйнай Францыі і якраз у той момант, калі тры дзяржавы, якія ўжо аднойчы абрабавалі яе, аб'ядналіся, каб пайсці на Парыж і задушыць рэвалюцыю. Ці ж маглі яны, дапусціць, каб у цэнтры кааліцыі (саюза трох контррэвалюцыйных дзяржаў — царскай Расіі, Прусіі і Аўстрыі, якія былі супраць рэвалюцыі ў Францыі) трывала звіла сабе гняздо рэвалюцыя?»

Краіны «кааліцыі», каб пагасіць рэвалюцыйны пажар побач з сабою, паслалі свае войскі ў Рэч Паспалітую ў 1792 годзе. У баях з імі вызначыўся трыццацігадовы паручнік Язэп Копаць, камандзір эскадрона ў пяцігорскай брыгадзе войска Вялікага княства Літоўскага. Але захопнікі перамаглі. У 1793 годзе адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай, па ўмовах якога брыгаду, дзе служыў Копаць, перадалі ў склад расійскай арміі. Служыў Копаць у гэтай арміі бездакорна. Калі ў 1793 годзе яго падначаленыя салдаты хацелі збегчы ў тую частку Беларусі і Украіны, якая заставалася ў складзе Рэчы Паспалітай, паручнік утрымаў іх ад гэтага кроку. Але неўзабаве сам увайшоў у арганізацыю, удзельнікі якой рыхтавалі рэвалюцыйнае выступленне супраць захопнікаў пад кіраўніцтвам земляка Копаца Тадэвуша Касцюшкі.

Нарадзіўся Язэп у Пінскім павеце 16 мая 1762 года і з маладых гадоў служыў у той жа брыгадзе, дзе і бацька, пачаўшы з чыну радавога (шэрагоўца).

Калі пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, Копаць узначаліў некалькі эскадронаў і вывеў іх, пазбягаючы сутычак з царскім войскам, з Валыні ў Польшчу. За гэта яго павысілі ў чыне да брыгадзіра (гэты чын быў вышэйшы за палкоўніка, але ніжэйшы за генерал-маёра.)

Падраздзяленні пад камандаю Копаца з поспехам удзельнічалі ў баях супраць царскіх і прускіх войскаў пад Хелмам, Голкавам, Варшаваю, Павонзкамі, Ваўжыковам. За сваю адвагу ён быў узнагароджаны залатым пярсцёнкам за нумарам 8 з надпісам «Айчына свайму абаронцу». Гэтая ўзнагарода была ўведзена Касцюшкам, каб замяніць манархічныя адзнакі — ордэны. Зараз пярсцёнак і баявая шпага нашага земляка захоўваюцца ў Музеі Войска Польскага ў Варшаве.

Сілы паўстання Касцюшкі, якое Ф. Энгельс ахарактарызаваў, як «дэмакратычна-аграрную рэвалюцыю», былі недастатковымі, каб супрацьстаяць больш моцным войскам «кааліцыі». У бітве пад Мацеёвіцамі ў пачатку кастрычніка 1794 года параненыя Касцюшка і Копаць былі захоплены ў палон. У той час як Касцюшку, яго сакратара Нямцэвіча, генералаў паўстання пасадзілі ў Петрапаўлаўскую крэпасць у Пецярбургу, брыгадзіра прыгаварылі да пажыццёвай ссылкі ў далёкі край імперыі.

Копаца везлі цераз усю Сібір у закрытай кібітцы. Яму забаранілі нават размаўляць з канваірам. У дарозе сібіракі дапамагалі палоннаму пераносіць жыццёвыя нягоды. Пра яго ўладкаванне ў Іркуцку паклапаціўся мясцовы камендант — малады іркуцкі ўрач, зяць вядомага марахода Г. Шэліхава. У Ахоцку на пустынным беразе мора яго сустрэў невядомы грэчаскі купец і прапанаваў перадаць лісты да сям'і і сяброў на радзіму, нягледзячы на небяспеку, якая яму пагражала за размову са ссыльным.

Ён ехаў па дзікай тайзе тры тысячы вёрст з Якуцка ў Ахоцк праз буралomy і скалы разам з купецкім караванам у чатыры тысячы коней. Кожныя дваццаць коней абслугоўваў адзін якут. Караван марудна цягнуўся доўгай стужкай па шляху, які быў абазначаны шкілетамі жывёл, што палі тут раней. Толькі [illegible]раправа праз Лену адбыв[illegible]я два тыдні.

Копаць там, у Якуціі, радаваўся нават часовай ілюзіі волі, калі ехаў вярхом, паклаўшы на цвёрдае драўлянае сядло мех з мохам. Больш за ўсё ён запомніў пераходы пра[illegible]брывістыя перавалы, па [illegible]зкіх крутых сцежках, шт[illegible]віліся над краем бездані. Кожны няўдалы крок пагражаў пагібеллю. У адзін дзень загінула некалькі дзесяткаў чалавек з коньмі.

Князь Мышынскі, які ехаў з караванам у Ахоцк на пасаду каменданта, самавольна захапіў кіраўніцтва караванам і дазваляў сабе грубасць з якутамі. Калі тым гэта надакучыла, яны кінулі тавар і коней і ўцяклі. Караван спыніўся. «Мы, такім чынам, стаялі тры дні, — успамінаў пазней Копаць, — і не крануліся б з месца, калі б некаторыя з нашых купцоў не знайшлі шляхоў, каб супакоіць абураных якутаў. Гэтыя купцы, узлезшы на дрэвы, заклікаючы і молячы ўцекачоў на іх роднай мове, здолелі ўгаварыць якутаў вярнуцца. Праваднікі даказалі, што яны добрыя людзі, а збянтэжаны князь, папрасіўшы прабачэння ў зняважаных, павінен быў падпарадкавацца іх указанням».

Потым, у час плавання па Ахоцкаму мору, судна, на якім плыў Копаць, трапіла ў шторм і пацярпела крушэнне.

Калі шторм аціх, тыя, хто застаўся ў жывых, з дапамогаю тубыльцаў-айнаў на працягу некалькіх тыдняў адрамантавалі свой карабель і паплылі на паўночны ўсход. Ва Усць-Камчацку генерала спусцілі на бераг.

Ва Усць-Камчацку Копаць павінен быў застацца да канца жыцця. Пасялілі яго ў хаце рускага ссыльнага, які сардэчна паставіўся да брыгадзіра. Хатка, як і ўсе камчацкія жыллёвыя пабудовы, была напалову ўкапанай у зямлю, у пакоі — два слюдзяныя акенцы, а трэцяе — зверху — замяняла льдзіна. Пасярэдзіне знаходзілася печка, у пакоі стаялі драўляныя лавы і каменны столік.

Разам з Копацем былі двое сталых «папячыцеляў», выходзіць з хаты без дазволу каменданта крэпасці выгнаннік не мог.

Пацягнуліся шэрыя дні зняволення. Копаць пачаў упадаць у апатыю, яго мучыла бяздзейнасць, якая была тым больш крыўднай, што Камчатка з'яўлялася амаль не даследаванай зямлёй. Ён пісаў потым у сваіх успамінах:

«Вольны чалавек, які валодае моцным здароўем, змог бы перагортваць кнігу прыроды гэтай краіны, не сакрэты і з'явы здолеў бы ператварыць у аб'ект, дастойны яго працы і разважанняў. Невядомыя дасюль рэчы, памнажаючы скарб сабраных звестак, забяспечылі б яму падзяку роду чалавечага... Калі б я нават хацеў прыняцца за цяжкую справу запісвання таго, што я назіраў, то для гэтага не меў ні паперы, ні атраманту».

Заставалася ўспамінаць мінулае. Але ўспаміны толькі на пэўны час адрывалі Копаца ад жыцця, якое ён праводзіў у зямлянцы пад пільным наглядам канвойных. Чым гэта было лепей за турэмнае зняволенне? І ў Копаца паступова развівалася нервовая хвароба. Таму камендант мусіў пайсці на пэўную палёгку. Копацю дазволілі праз дзень гуляць уздоўж узбярэжжа.

Асабліва ўразілі Копаца нябачаныя дагэтуль вулканы, буйнейшы з якіх — Ключаўская Сопка — панаваў над навакольнымі абшарамі, а ўначы нагадваў вялікую паходню.

Моцныя ўражанні на сасланага таксама зрабіла землетрасенне, аб якім ён пісаў:

«У шмат якіх мімалётнасцях лёсу я ніколі не траціў спакою, на полі бою я таксама ніколі не губляў самавалодання, тады ж, мушу прызнацца, я згубіў прысутнасць духу. Землетрасенне было жахлівым, суправаджалася моцным гулам і цягнулася некалькі мінут. Вулкан дадаваў да гэтага свой бясконцы грукат. Вада ў рацэ Камчатцы сышла, акіян значна адсунуў свае воды, а потым ўся мясцовасць па ўсёй Ніжняй Камчатцы пакрыта была ржавым покрывам попелу, таўшчынёй у некалькі дзюймаў...»

Сардэчна складаліся адносіны з мясцовымі жыхарамі ітэльменамі і ітэльмена-рускімі мяшанцамі камчадаламі, аб чым Копаць пісаў:

«Я не здолеў бы вынесці цяжару, які душыў мяне, каб не дабрата камчадальскага народа, які ў некаторым сэнсе аблягчаў мае пакуты».

Копаць падкрэсліваў, што ітэльмены «па прыродзе добрыя, паслухмяныя, ветлівыя і бязмежна гасцінныя». Карэнныя жыхары забяспечвалі ссыльнага мясам свежай птушкі, што ўратоўвала яго ад цынгі.

...З часу прыбыцця Копаца на Камчатку прайшло два гады. Нудзіўся ён вельмі, моцна смуткаваў па дому і вось вырашыў збегчы з Камчаткі. Сваю дапамогу прапанаваў яму гаспадар дома. Разам яны задумалі на сабачых запрэжках праехаць уздоўж марскога берага на Чукотку, да вусця ракі Анадыр і там чакаць англійскага або іспанскага кітабойнага карабля. Шанцы на поспех былі вельмі малыя, аднак сябры старанна збіралі ежу і патаемна рыхтавалі ў шлях сабачыя запрэжкі.

У гэты час прыйшла нечаканая вестка. Увосень 1796 года ў порт прыйшоў карабель. Кацярына II памерла, а яе пераемнік — Павел I аб'явіў амністыю для палітычных вязняў. Калі Копаць даведаўся аб амністыі, ён страціў прытомнасць. Ачуняўшы, павінен быў адказваць на шматлікія віншаванні, з якімі да яго з'явіліся жыхары гарадка.

Карабель, з якім дайшла да нашага земляка вестка аб волі, не змог прыняць яго на свой борт, бо адплываў у далёкія краі і мусіў вярнуцца ва Усць-Камчацк толькі праз два-тры гады. Гэта крыху засмуціла Копаца. Тым часам у чаканні аказіі ён праводзіў шмат часу з рускімі маракамі, якія адпачывалі ў порце пасля цяжкіх і небяспечных шматгадовых рэйсаў па Ціхім акіяне. Праз некаторы час у Камчацкую гавань прыбіўся знясілены штормам англійскі карабель. Копаць вырашыў паехаць з гэтай экспедыцыяй, хоць бы[illegible] вельмі рызыкоўна. Ванд[illegible]нікам пагражалі адпачы[illegible]к у снезе, магчымыя сустрэчы з узброенымі чукчамі, снежныя бураны, адсутнасць ежы... Аднак Копаць сеў у кош з аленевых і мядзведжых шкур з невялічкімі слю[illegible]нымі акенцамі, які быў [illegible]таўлены на палазы. У сані было ўпрэжана трынаццаць сабак. Побач стаялі іншыя запрэжкі. Усяго ў экспедыцыі прымала ўдзел трыццаць чалавек.

На шосты дзень падарожжа сабакі пачулі чалавечае жытло і завярнулі ў яго бок. Але юрты, у якіх жылі каракі, снег засыпаў так, што без сабак ніхто б іх не знайшоў. Пачуўшы сабачы брэх, каракі выбраліся праз адтуліны ў стрэхах і гасцінна прымалі ў сябе задубелых ад сцюжы вандроўнікаў.

Пасля трохдзённага адпачынку рушылі далей і на працягу некалькіх дзесяткаў дзён да Анадыра не сустрэлі аніводнай юрты. Ад вусця ракі павярнулі на захад, але ехалі з асцярогай, бо чукчы, якія жылі тут, варожа ставіліся да царскіх чыноўнікаў, казакаў і гандляроў, вядомых як гвалтаўнікі і драпежнікі.

І ўсё ж такі сустрэчы з чукчамі не пазбеглі. Тады наперад выйшаў праваднік, які растлумачыў грозным чукчам, што вязе дадому палоннага, які абараняў сваю зямлю. Няўжо ж чукчы, якія самі любяць волю, зняволяць і яго, і тых, хто яго суправаджае?

Словы гэтыя зрабілі ўражанне на ваяўнічых жыхароў тундры. Наблізіўшыся да санак, у якіх ехаў Копаць, яны ўгледзеліся ў яго, кінулі туды некалькі сабаліных і пясцовых шкурак і развіталіся зусім па-сяброўску. Хаця, як падкрэслівае Копаць, за некалькі гадоў да гэтага грозныя гаспадары суровага краю разграмілі два такія караваны.

Па дарозе з Гіжыгінска ў Ахоцк падарожнікаў заспеў снежны буран. Ён працягваўся тры дні. Харчовых прыпасаў, разлічаных на пераход, не хапіла. Сабакі сталі грызці адзін аднаго, яны цягалі з саней футра, рукавіцы і шапкі. Як толькі бура сціхла, рушылі далей і з цяжкасцю пераадолелі вялікую гару. Ля яе падножжа сустрэлі эвенкаў са статкам аленяў. Тут хапіла ежы і для падарожнікаў, і для сабак. Неўзабаве даехалі да Ахоцка. Адсюль Копаць вяртаўся знаёмым шляхам.

Далейшы лёс нашага земляка складваўся не менш драматычна.

...Спачатку Копаць пасяліўся ў Вільні, потым на Валыні. Пазней, будучы хворым, ён жыў у сваіх сяброў.

Указам ад 21 снежня 1804 года Аляксандр I загадаў, каб пасля смерці ўладальніка маёнтка Лушнеў Браслаўскага павета Вінцэнта Копаца маёнтак быў перададзены Язэпу Копацю. Аднак брыгадзір не стаў тут гаспадаром. Жыў ён у пераемніка Касцюшкі Томаша Ваўжэцкага ў Відзах (Ваўжэцкі — таксама ўраджэнец Браслаўскага павета), у князёў Чартарыйскіх у Пулавах (на поўдзень ад Варшавы), у Радзівілаў у Нясвіжы... Памёр ён у 1827 годзе і быў пахаваны ў Лушневе.

„Па парадзе вядомага пісьменніка і падарожніка, ураджэнца Брэстчыны Юліяна Нямцэвіча, Я. Копаць напісаў успаміны. Яны вытрымалі не менш дзевяці выданняў. Перакладалі запіскі Копаца і на рускую мову: урывак з першай рэдакцыі дзённіка Копаца быў змешчаны ў 1821 годзе ў часопісе «Сибирский вестник», а пераклад другой, пашыранай рэдакцыі яго кнігі быў апублікаваны ў часопісе «Исторический вестник» у 1896 годзе. Але ў гэтым перакладзе, які зрабіў Г. Вараб'ёў, ёсць скарачэнні і перамяшчэнні тэксту. Абодва пераклады з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю.

На жаль, на беларускую мову ўспаміны Копаца не перакладаліся. А шкада: яны маглі б папоўніць уяўленні чытача аб тым бурным часе, які закруціў, як у водавароце, нашага славутага земляка. Трапныя назіранні, жывыя карціны быту і прыроды ва ўспамінах Копаца і цяпер застаюцца сапраўдным скарбам ведаў аб Сібіры і Далёкім Усходзе.

З імем Копаца звязана адна загадка, якую яшчэ трэба будзе разгадаць. Вядомы краязнавец Браслаўшчыны, мясцовы настаўнік Отан Хедэман (дарэчы, самы бліскучы з усёй яркай плеяды беларускіх краязнаўцаў другой паловы XIX — першай паловы XX стагоддзяў, асоба, недастаткова ацэненая сучаснікамі і нашчадкамі, якая заслугоўвае манаграфічнага даследавання) у адной з некалькіх сваіх краязнаўчых манаграфій пра Браслаўска-Глыбоцкі край «Гісторыя Браслаўскага павета» адзначае, што ў 1767 годзе ў жалезнай клетцы быў вывезены ў Сібір браслаўскі харунжы Юзаф Копаць. На сейміку павета браслаўская шляхта ўнесла пратэст супраць таго, што грамадзяніна адной дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жмудскага, парушыўшы законы гэтай дзяржавы, вывезлі за яе межы. Пакуль што не ўстаноўлена сувязь гэтага Юзафа Копаца з героем нашага нарыса, аднак, мяркуючы па ўскосных даных, іх сваяцтва не выклікае сумнення. І гэтага першага Юзафа Копаца, як і нашага героя, вывезлі ў ссылку за ўдзел ва ўзброеным супраціўленні царскім войскам, супраць якіх ён выступаў у складзе Радомскай канфедэрацыі — часовага палітычнага саюза ўзброенай шляхты з мэтай абароны яе агульнасаслоўных інтарэсаў, якое іншы раз перарастала ў паўстанне супраць караля.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**

# РОЖДЕСТВЕНСКОЕ ПОСЛАНИЕ

## МИТРОПОЛИТА МИНСКОГО И ГРОДНЕНСКОГО ФИЛАРЕТА

## ПАТРИАРШЕГО ЭКЗАРХА БЕЛОРУССИИ ЧЛЕНА СВЯЩЕННОГО СИНОДА

*Величай, душе моя, от Девы*
*Бога плотию рождшагося*

(Припев 9-й песни Рождественского канона)

## ВОЗЛЮБЛЕННЫЕ О ГОСПОДЕ КЛИР И ПАСТВА ЗЕМЛИ БЕЛОРУССКОЙ!

Вновь наступил великий и радостный праздник Рождества Христова.

Вновь светло торжествует Святая Православная Церковь, благовествуя миру **великую благочестия тайну** (I Тим. 3, 16),—тайну Божественной премудрости и Божественной любви, явленных людям в воплощении Сына Божия, Господа нашего Иисуса Христа. **Велие и преславное чудо совершися днесь: Дева раждает, и утроба не истлевает; Слово воплащается, и Отца не отлучается. Ангели с пастырьми славят и мы с ними вопием: Слава в вышних Богу...** (Из праздничной стихиры на стиховне).

Присоединяя наш глас к победному пению небесных Ангелов, восславим Господа рождшагося в яслех Вифлеемских, приблизимся к Нему, как мудрецы с Востока, поклонимся Ему и возрадуемся о Его **странном и преславном** пришествии.

Напряжем наше духовное зрение и узрим очими веры близость к нам Того, Кто **в подобии плоти греховной** (Рим. 8, 3) пришел в мир, чтобы восстановить в нас помраченный образ Божий, освободить нас от рабства греху и на веки соединить с Собою. Через Иисуса Христа мы узнали, что Бог любит каждого из нас, что Он—с нами, что мы не одни в нашем земном странствии, в наших скорбях и болезнях. В таинстве Боговоплощения нашей жизни дарован истинный смысл и подлинная цель—жить во Христе и со Христом, **облекаясь в нового человека** (Еф. 4, 24).

Размышляя над тайной вочеловечения Сына Божия, мы должны понять во всей глубине подвиг крайнего смирения Христова ради нашего спасения и научиться уважать в себе и во всех людях высокое достоинство человека, его бессмертную душу, которая в очах Божиих дороже всего мира и которая искуплена бесценной кровью Спасителя (Рим. 5,9-10; Ин. 1, 7).

Поэтому, дорогие отцы, братья и сестры, будем проводить нашу христианскую жизнь не формально, лишь говоря: **Господи, Господи!..** (Лк. 6, 46), но помнить заповедь Христову, **да любите друг друга, как я возлюбил вас** (Ин. 15, 12), и не забывать наставление Апостола прежде **совершать молитвы, прошения, моления, благодарения за всех человеков**, и жить **во всяком благочестии и чистоте** (I Тим. 2,1-2).

Возлюбленные! Сегодня этот Божественный Завет с особенной силой должен питать нашу веру и жизнь и расширять наши сердца для доброделания. Благотворные изменения, происходящие в нашем обществе, дают людям надежду на лучшее будущее, на более полную осуществимость справедливости, добра и мира в нашей жизни.



Вместе с тем, нелегкое положение, сложившееся в стране, таит в себе многочисленные угрозы, подобных которым еще не знал и наш белорусский народ. В республике остро ощущаются последствия трагедии Чернобыля. Наша многострадальная земля, не раз омытая кровью отцов и дедов, продолжает загрязняться вредоносными отходами и испытывает небрежное к себе отношение. Среди нас еще в недостаточной степени проявляется внимание к нуждам инвалидов и престарелых, к страдающим тяжелыми недугами или к детям, не имеющим родителей. В нашем обществе еще нет должного уважения к женщине, материнству, любви к младенцам, многих из которых лишают жизни еще в утробе матери до их рождения. Все это, а также и другие причины, обрекают нас на постоянные физические и нравственные страдания, и перед нами встает неизбежный вопрос: как действовать в дальнейшем? И единственным ответом на него для нас, прилагающих к себе спасительное имя Иисусово, может быть исповедание апостола Фомы: **Господь мой и Бог мой!**

К Нему, Господу нашему Иисусу Христу, вочеловечившемуся нашего ради спасения, обращаем мы свои сердца. К нему, всегда отзывающемуся на наш зов, возносятся наши слова, повторяемые вслед за апостолом Петром: **Господи! к кому нам идти? Ты имеешь глаголы вечной жизни** (Ин. 6, 68).

Да, Христос есть наш **путь и истина и жизнь** (Ин. 14, 6). И мы должны не смотря ни на что, идти этим путем, ибо только он является залогом нашей вечной жизни. Но невозможно сего достичь, если наша жизнь не проникнута чувством сострадания, милосердия и любви к человеку. **Бог есть любовь** (Ин. 4, 8). И прежде всего Христос приносит нам уверенность в том, что любовь сильнее смерти, что любовь преодолевает черствость и равнодушие, эгоизм и вражду и всегда возвышает человека, просвет[illegible] нем образ Божий и раскрывая его непреходящую ценность.

Поэтому я обращаюсь к вам, возлюбленные, как к достоянию нашей Святой Православной Церкви и детям земли Белорусской,—вы, которых Господь избрал от вечности и [illegible]дназначил к бессмертию, вы, лю[illegible]ые Господом, должны создавать вокруг себя неугасимые очаги любви, братолюбия, взаимного уважения и светлой надежды. Сегодня многие люди в Отечестве нашем нуждаются в духовной помощи и поддержке: выйдите им навстречу, окружите их любовью и сердечным вниманием, постоянно памятуя об **Отце милосердия и Боге всякого утешения** (2 Кор. 13), Который открыл нам Себя в Своем Сыне, Иисусе Христе.

Сегодня, когда совершается справедливое дело обновления всего нашего общества и решаются судьбы белорусского народа, пусть никто из вас не останется безучастным к тому, что касается условий жизни и труда наших сограждан. Вы должны содействовать всему, что улучшает эти условия, и противостоять препятствующему положительным процессам.

Я призываю вас к сотрудничеству вместе с представителями иных христианских исповеданий, и со всеми людьми доброй воли в разрешении проблем и в преодолении трудностей в сфере духовной, культурной, социальной и экономической жизни как в Белоруссии, так и во всей Стране. Пусть каждый из вас примет достойное участие в служении своим братьям и сестрам и всему обществу, противопоставляя проявлениям нетерпимости гражданское мужество и любовь.

Минувший год в жизни Русской Православной Церкви и нашей Белорусской епархии был ознаменован историческими событиями. Мы отметили 400-летие Патриаршества на Руси. В Москве Собор Архиереев возродил наши древние епископские кафедры в Полоцке, Могилеве и Пинске. Белорусская митрополия получила статус Экзархата. Возродилась Минская Духовная Семинария в Жировицком монастыре, состоялся первый выпуск Духовного Училища при Минском Епархиальном Управлении, вновь открывается древний Спаско-Ефросиниевский женский монастырь в Полоцке. Все эти благотворные перемены оживляют дух нашего народа, побуждают его к нравственному совершенствованию.

Возлюбленные о Господе Преосвященные архипастыри, пастыри, боголюбивые иноки и все благочестивые чада Русской Православной Церкви в пределах нашего Белорусского Экзархата!

От всей души с любовью поздравляю вас с великим и спасительным праздником Рождества Христова и сердечно желаю вам в Новом году помощи Божией, обильных Его милостей в ваших заботах о вечном спасении и на всех путях вашей жизни и служения во славу Святой Церкви.

Пусть еще торжественнее и громче зазвучит в сердцах наших хор небесных Ангелов, еще ближе станет нам рождшийся Господь, Который **недалеко от каждого из нас** (Деян. 17, 27). Выйдем же Ему во сретение и склонимся пред яслями Вифлеемскими, **в нихже возлеже невместимый Христос Бог, Его же воспевающе, величаем.** Амин.

**ФИЛАРЕТ,**
**МИТРОПОЛИТ МИНСКИЙ И ГРОДНЕНСКИЙ,**
**ПАТРИАРШИЙ ЭКЗАРХ БЕЛОРУССИИ**

**Рождество Христово**
**1989/90 гг.**
**г. Минск.**

## ЛЮБАСНЫЯ Ў ГОСПАДЗЕ КЛІР І ПАСТВА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ!

Зноў надышло вялікае і ўрачыстае свята Нараджэння Хрыстовага.

Зноў святкуе Святая Праваслаўная Царква, звястуючы свету вялікую пабожнасці тайну (І Цім. 3, 16),— тайну Божай мудрасці і Божай любові, яўленых людзям ва ўцілесненні Сына Божага, Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Мінулы год у жыцці Рускай Праваслаўнай Царквы і нашай Беларускай епархіі быў пазначаны гістарычнымі падзеямі. Мы адзначылі 400-годдзе Патрыяршаства на Русі. У Маскве Сабор Архіерэяў адрадзіў нашыя старадаўнія епіскапскія кафедры ў Полацку, Магілёве і Пінску. Беларуская мітраполія атрымала статус Экзархата. Адрадзілася Мінская Духоўная семінарыя ў Жыровіцкім манастыры, адбыўся першы выпуск Духоўнага вучылішча пры Мінскім Епархіяльным упраўленні, зноў адчыняецца старадаўні Спаса-Еўфрасіннеўскі жаночы манастыр у Полацку. Усе гэтыя перамены ажыўляюць дух нашага народа, прыхіляюць яго да маральнага ўдасканальвання.

Сёння, калі абнаўляецца ўсё наша грамадства і вырашаецца лёс беларускага народа, хай ніхто з вас не застанецца з боку ад усяго таго, што датычыцца ўмоў жыцця і працы нашых грамадзян.

У рэспубліцы востра адчуваюцца наступствы трагедыі Чарнобыля. Наша шматпакутная зямля, не раз абмытая крывёю бацькоў і дзядоў, і далей забруджваецца шкоднымі адкідамі і адчувае неахайныя да сябе адносіны. Нехай кожны з вас **возьме годнасны** ўдзел у служэнні сваім братам і сёстрам і ўсяму грамадству.

Любасныя ў Госпадзе Прэасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, багалюбныя інакі і ўсе пабожныя чады Рускай Праваслаўнай Царквы ў межах нашага Беларускага Экзархата!

Ад шчырай душы з любасцю віншую вас з вялікім і збаўленчым святам Нараджэння Хрыста і сардэчна зычу вам у Новым годзе дапамогі Божай, багатых Яго міласцяў у вашых клопатах пра вечнае збавенне і на ўсіх шляхах вашага жыцця вашага і служэння на славу Святой Царкве. Амінь.

**ФІЛАРЭТ,**
**МІТРАПАЛІТ МІНСКІ І ГРОДЗЕНСКІ,**
**ПАТРЫЯРШЫ ЭКЗАРХ БЕЛАРУСІ**

**Нараджэнне Хрыстовае**
**1989/90 гг.**
**г. Мінск.**

КУЛЬТУРА Ў СССР:

ГАЛОЎНЫЯ ВЫНІКІ ГОДА

# ЭЦЮД
# У ЧОРНА-БЕЛЫХ ФАРБАХ

Ацаніць стан савецкай мастацкай культуры за адзін год, вызначыць, ці зроблены крок наперад у параўнанні з папярэднім перыядам,— задача не толькі складаная, але ў чыста навуковым плане, відаць, нават некарэктная: дванаццаць месяцаў аднаго года не могуць разглядацца ў адрыве ад мінулага і будучыні. Тым не менш, журналісцкі каментарый у стане даць блізкую да рэальнасці аб'ектыўную карціну, своеасаблівы эцюд у чорна-белых танах.

Спачатку аб фарбах чорных. Нямала людзей у краіне схільны разглядаць становішча ў сферы культуры як крызіснае. Падставы для гэтага ёсць. Яны дастаткова важкія і змрочныя.

Зноў не выкананы план па будаўніцтву аб'ектаў культуры. Матэрыяльная база і тэхнічная аснашчанасць пераважнай большасці ўстаноў працягвае заставацца на нізкім узроўні. Дамы культуры і клубы ў асноўнай сваёй масе ў вельмі крызісным стане. У падобнай сітуацыі многія драматычныя і оперныя тэатры, музеі, канцэртныя залы, буйныя цэнтральныя і радавыя правінцыяльныя бібліятэкі. Скарацілася колькасць аматарскіх мастацкіх гурткоў.

Працягвае дзейнічаць так званы астаткавы прынцып, калі ў вышэйшых эшалонах улады аб культуры ўспамінаюць у апошнюю чаргу. Не распрацавана такая неабходная ва ўмовах перабудовы новая стратэгія развіцця галіны, якая б гарманічна ўвязала эканамічныя і творчыя яе аспекты.

Незадаволенасць выклікае і становішча непасрэдна ў творчай сферы. Замарудзілася, напрыклад, ажыццяўленне радыкальнай рэформы ў тэатры. Буксуе новая мадэль кінематографа, на якую ўскладалася так многа надзей...

1989 год, на думку скептыкаў, не даў ніводнага новага мастацкага твора, які б стаў падзеяй. Адбываецца толькі рэабілітацыя створанага раней. У літаратуры — гэта Булгакаў, Ахматава, Платонаў, Гумілёў, Набокаў. У музыцы — Шнітке, Губайдуліна, Дзянісаў. У выяўленчым мастацтве — Малевіч, Кандзінскі, Філонаў, Звераў... А дзе ж новыя, сённяшнія ўладары дум?

Пасля ўсяго сказанага можа здацца, што довады проціле гглага парадку прагучаць неперапканаўча. Аднак гэта не так. Памылкі прызнаюцца сёння, а прызнанне пралікаў — факт пазітыўны. Да таго ж апрача памылак ёсць і дасягненні.

Адзін з галоўных станоўчых вынікаў года — умацаванне творчай незалежнасці як асобнага мастака, так і мастацкіх калектываў. Свабода творчасці не дэкларуецца, яна існуе. Гэта факт, прызнаны і ў СССР, і за яго межамі.

Працягваецца насуперак песімістычным прагнозам далейшае раскрыццё белых плям і звужэнне забароненых зон. Напрыклад, у 1989 годзе савецкі чытач атрымаў нарэшце магчымасць пазнаёміцца з творамі Аляксандра Салжаніцына.

Вышэй узнялася планка «праходнасці» мастацкіх твораў. Публікацыі Булгакава, Ахматавай, Набокава—не проста «рэабілітацыя» раней забароненага. На фоне іх твораў многія кнігі і сцэнарыі становяцца неканкурэнтаздольнымі, патрабаванні да творчасці ўзрастаюць. Халтуршчыкам, кан'юнктуршчыкам, шэрасці сёння ў мастацтве нязручна. 1989 год пацвердзіў прыярытэт мастацкасці над усімі іншымі якасцямі. Сёння нават некаторыя непрымірымыя раней чыноўнікі - бюракраты зразумелі, што кіно, тэатр, літаратура, жывапіс могуць развівацца і быць адначасова фінансава выгаднымі толькі дзякуючы таленту і прафесіяналізму. Сёння, як сказаў вядомы кінасцэнарыст Валянцін Чарных, «нявыгадна калечыць таленты».

Колькасць аматарскіх мастацкіх гурткоў сапраўды зменшылася. Затое ў 1989 годзе значна павялічылася колькасць тэатральных студый, дзе з захапленнем эксперыментуе моладзь, дзе талент атрымлівае магчымасць праявіць сябе, звярнуць на сябе ўвагу. Спектаклі ў гэтых студыях пераконваюць, што вялікія акцёрскія і рэжысёрскія традыцыі савецкага тэатра не толькі не страчаны, але атрымалі сваё развіццё.

У выяўленчым мастацтве 1989 год адкрыў дзесяткі новых імёнаў, плыняў, напрамкаў. Замежныя калекцыянеры, дырэктары музеяў і ўладары галерэй літаральна навадніл майстэрні савецкіх мастакоў. Мастацтвазнаўцы паўсур'ёзна выказваюць апасенні, што калі гэты «бум» будзе працягвацца, то ў краіне не застанецца ніводнай карціны, якая б дастойна прадстаўляла сучасны перыяд.

Хаця і тэатральная рэформа, і пераўтварэнні ў кінематографе праходзяць з цяж[illegible]цямі, яны ўсё ж працягваюц[illegible] Конкурснасць, спаборніцтв[illegible] марудна, але паслядоўна выцясняюць ураўнілаўку.

Мастацкая інтэлігенцыя дабілася ў мінулым годзе рашэння Савета Міністраў СССР, якое дазваляе творчы[illegible]юзам рабіць даплату да [illegible]сій сваім членам. Творчыя саюзы кінематаграфістаў, пісьменнікаў, журналістаў, тэатральных дзеячаў сёння не проста грамадскія арганізацыі, якія займаюцца творчымі пытаннямі. У 1989 годзе яны некалькі разоў прымушалі з сабой лічыцца (дастаткова сказаць аб няўдалай спробе скараціць на 10 працэнтаў, ці на 200 мільёнаў рублёў, дзяржаўныя асігнаванні на тэлебачанне) і дэманстравалі сваю палітычную пазіцыю — пазіцыю безагаворачнай падтрымкі перабудовы і дэмакратычных перамен.

1989 год пабіў усе рэкорды ў галіне міжнароднага культурнага абмену. Сотні савецкіх артыстаў і мастацкіх калектываў усіх рангаў пабывалі з гастролямі за мяжой. Многія вядомыя ў свеце тэатры наведалі СССР. З'явіліся новыя формы сумеснага супрацоўніцтва. У краіне адкрыліся аддзяленні ПЕН-клуба.

1989 год — год пачатку ўсталявання дзелавых, камерцыйных прынцыпаў у савецкай культуры. Ужо першы вопыт паказаў, што камерцыя зусім не заўсёды з'яўляецца ворагам мастацтва і вельмі часта можа стаць добрым памочнікам у развіцці кнігавыдавецтва, кінематографа, эстрады. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць паспяхова прайшоўшы сёлета ў Маскве міжнародны кніжны кірмаш.

Мастацкая культура вызначаецца не толькі лічбамі. Яе значнасць — ва ўздзеянні. Культурнае жыццё 1989 года праходзіла пад знакам перабудовы, у абстаноўцы далейшага развіцця публічнасці, плюралізму, збліжэння мастака з гледачом і чытачом. І гэта, бясспрэчна, аказвала значны ўплыў на грамадскае і палітычнае жыццё краіны. Геніяў 1989 год сапраўды не нарадзіў, але пэўны крок у далейшай дэмакратызацыі мастацкага жыцця зрабіў.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**



Умацоўваюцца эканамічныя і культурныя сувязі паміж жыхарамі Брэсцкай вобласці і Беластоцкага ваяводства. Новым сведчаннем стала паездка народнага ансамбля танца «Рэха» са Століна ў Польшчу. Гасцей з Беларусі прымаў ансамбль танца Бяла-Падляскага філіяла Варшаўскай фізкультурнай акадэміі імя Кароля Свярчэўскага. Ансамбль выступаў з канцэртамі, сустракаўся са студэнтамі, наведаў Люблін,

НА ЗДЫМКУ: беларускія і польскія самадзейныя артысты пасля канцэрта.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.

*І ЗАСТАЛОСЯ Ў ПАМЯЦІ*

# «КУРГАННАЯ КВЕТКА», АБО ДАДАТАК ДА ПАСАГУ

Беларуская вёска жыла спрадвечным жыццём. Сяляне апрацоўвалі свае вузкія палеткі. Жанчыны таксама не мелі прасветнай гадзіны. Трэба было сярпамі жаць збожжа, уручную даглядаць і ўбіраць бульбу. Позняй восенню і зімой чакалі жанчын лён і кудзеля.

Не мінуў такі лёс і дзяўчыну Насцю. Яна рабіла ўсё тое, што і яе сяброўкі. Былі і разрыўкі, але яны не выходзілі за рамкі вясковага аднастайнага побыту. Хацелася чагосьці светлага, вясёлага, накшталт веснавога свята вялікадня. Дзяўчаты падрасталі і марылі аб замужжы. Ды яно таксама мала радавала, бо ўскладвала на плечы яшчэ цяжэйшую працу, новыя клопаты.

Ды вось нечакана-негадана ў хату кракоцкай сям'і Жыткевічаў уварвалася надзвычайная падзея, якая парушыла аднастайны бег часу. Аднойчы, будучы ў Слоніме, вясковы актывіст Рыгор Збраевіч зайшоў да свайго аднавяскоўца Сымона Жыткевіча, які працаваў старшынёй Слонімскай акруговай управы Таварыства беларускай школы. Там жа, на Ружанскай вуліцы, размяшчалася і беларуская кнігарня. Рыгор звярнуў увагу на загадкавую жанчыну-сфінкса, што заняла амаль усю вокладку кніжкі. А кніжка называлася таксама загадкава — «Курганная кветка».

Рыгор Збраевіч купіў кніжку. Прачытаўшы, падарыў яе Насці, адной з удзельніц гуртка самадзейнасці.

Так і паявілася ў Кракотцы «Курганная кветка» Канстан[illegible] Буйло. Зборнік вершаў [illegible]абаўся ўсім, а Насця не [illegible]пускала яго з рук у вольную хвіліну. І што цікава: верш «Люблю наш край, старонку гэту» перапісвала ўся моладзь, бо ён стаў народнай песняй, якая гучыць і ў [illegible] дні.

А [illegible]сця? Яна па гэтай кнізе навучылася чытаць і пісаць, бо ў беларускую школу ніколі не хадзіла. Праўда, пісаць ёй даводзілася рэдка. Але калі пісала пісьмо, то, напрыклад, у словах «шчасьце», «клекатаньне» абавязкова ставіла і сёння ставіць мяккі знак—так, як тады друкавалася. «Курганная кветка» стала настольнай кнігай у хаце. Чыталі яе то адна, то другая Насціны малодшыя сёстры.

Нарэшце і для Насці прыйшоў час выходзіць замуж. Па адвечнай традыцыі выдалі ёй пасаг—грошы на пакупку каровы. Ад'язджаючы ў Хмяльніцу да мужа, маладая гаспадыня нясмела папрасіла бацькоў і сясцёр:

— Можа дасце ў прыдатак да пасагу «Курганную кветку»? Мы з ёй равесніцы (Настасся Крыванос нарадзілася ў 1914 годзе, у тым жа годзе ў віленскай друкарні Марціна Кухты выйшаў гэты томік вершаў).

Просьбу дачкі задаволілі, і яна доўга захоўвала дарагі «дадатак да пасагу». Прыгадваючы маладосць, даставала з-за абраза непаўторны сувенір, углядалася ў роўненькія радкі літар: «дзе першы раз пазнала шчасце, слязу нядолі праліла...»

У ваеннае ліхалеццe гінулі людзі, суседзі, прапала і «Курганная кветка». Насціну сям'ю мінула ліха, выгадавала пяцёра дзяцей, якія разляцеліся па свеце. Старэйшы сын Мікалай большую частку свайго жыцця правёў на морах-акіянах. Ён заслужаны рыбак Эстонскай ССР. Другі сын Павел, які жыве ў Мінску, кандыдат медыцынскіх навук.

Жанчына засталася ў Юнавічах (вёска на Слонімшчыне) адна. Сумавала. Часам памкнецца на покуць да абраза, а там няма кніжкі. Ды хвароба, каб на яе немач, скруціла так, што ледзь не задушыла. Хацела ехаць у Мінск да сына, але дачка, якая, як і Мікалай, жыве ў Эстоніі, перахапіла і завезла да сябе.

«Хацела»... Нікуды не хацела, ці ж лёгка пакінуць радзіму? У дачкі добра, утульна, толькі часта сніцца родная вёска...

...На паліцах слонімскіх кнігарняў паявілася факсімільнае выданне «Курганнай кветкі» Канстанцыі Буйло. Адзін экземпляр кніжачкі пошта панесла ў эстонскі горад Кунду.

**Іван МІСКО.**

# *КУПАЛА ПА-ТУРЭЦКУ*

Госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі быў турэцкі пісьменнік Інфар Унвер Насрэтцінаглы, аўтар трыццаці дзевяці кніг, частка якіх прысвечана жыццю і культуры савецкіх народаў. Сярод іх — «Валгаград учора, сёння», «Рэспубліка Азербайджан», «Класік туркменскай паэзіі Махтумкулі» і іншыя. І. Насрэтцінаглы склаў анталогіі азербайджанскай, узбекскай паэзіі, паэзіі казахстанскіх уйгураў. На гэты раз мае намер выдаць анталогію беларускай паэзіі. У Мінск ён прыехаў з мэтай сабраць матэрыял для анталогіі. Госць наведаў літаратурныя музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Вязынку, мемарыяльны комплекс «Хатынь».

На развітанне І. Насрэтцінаглы сказаў:

— Я бываў у многіх савецкіх рэспубліках, наведаў шмат краін. І таму магу параўноўваць. Мне здаецца, што ў сацыяльна-эканамічных адносінах Беларусь апярэджвае многія саюзныя рэспублікі. Хоць стабільнымі сувязямі паміж Турцыяй і Беларуссю мы не можам пахваліцца, але тым не менш. У Анкары з дваццатых гадоў існуе рэстаран «Карпіч». Заснаваў яго беларус, там была беларуская кухня. Гэта адзіны рэстаран у Анкары, які любіў наведваць правадыр турэцкай рэвалюцыі Кемаль Ататюрк. Карпіч памёр. Цяпер у рэстаране іншыя гаспадары, туркі, але назву рэстарана яны захавалі.

З Беларусі я вязу зборнікі паэзіі, анталогіі. Я рады, што вы далі мне магчымасць пазнаёміцца з жыццём і дзейнасцю двух цудоўных паэтаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Яны не толькі паэты, яны — духоўныя настаўнікі народа. Калі мне ўдасца гэта адлюстраваць у анталогіі, то іх паэзія стане сапраўдным здабыткам турэцкага чытача.

**А. ГАРДЗІЦКІ.**





II. ВАЎКАВЫСК — сапраўды горад старажытны. У Іпацьеўскім летапісе ён згадваецца пад 1252 годам. Аднак з археалагічных раскопак вядома, што славянскае паселішча ў гэтых мясцінах існавала ўжо ў канцы X стагоддзя. З цягам часу ў Ваўкавыску развіваліся разнастайныя рамёствы і промыслы. Пра гэта, у прыватнасці, падрабязна расказвае экспазіцыя мясцовага, вельмі цікавага і багатага на экспанаты краязнаўчага музея. Яны пацвярджаюць і тое, што і пісьменнасць добра была вядома тутэйшым людзям. У Ваўкавыску знойдзены спецыяльныя інструменты для пісання, так званыя «пісàлы». Наогул такіх «пісал» тут было знойдзена дванаццаць, і зараз ваўкавыская знаходка па колькасці саступае толькі наўгародскай.

Шмат пацярпеў Ваўкавыск, як дарэчы і ўся зямля беларуская, ад нашэсцяў іншаземных захопнікаў. Але адстаяў народ сваю незалежнасць. І сёння тут ганарацца тым, што ў склад авангарда славутага генерала Баграціёна ў Альпійскіх гарах у 1799 годзе ўваходзіў егерскі полк з Ваўкавыска. А пазней, у час Айчыннай вайны 1812 года ў Ваўкавыску некаторы час знаходзілася штаб-кватэра Баграціёна. Назаўсёды застануцца ў памяці нашчадкаў падзеі Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў. Імёнамі герояў названы вуліцы, у памяць аб загінуўшых палае агонь у адным са сквераў горада.

Безумоўна, сёння Ваўкавыск жыве сучасным жыццём. Яго жыхары працуюць на мясцовых прамысловых прадпрыемствах. Дзеці ходзяць у школы. Тут, як і паўсюль, святкуюцца наваселлі, гуляюцца вяселлі. І кожны з жыхароў Ваўкавыска, хаця б у думках, але імкнецца зазірнуць у дзень наступны. Як, дарэчы, і жыхары іншых гарадоў, вялікіх і малых, шумных і ціхіх.

НА ЗДЫМКАХ: Вацлаўскі касцёл, пабудова 1846—1848 гадоў; сквер Памяці ў Ваўкавыску; Шведская гара. Яна ўзвышаецца над усімі іншымі мясцовымі ўзгоркамі. Існуе легенда, што калісьці яе стварылі шведскія воіны над магілай свайго военачальніка; слесар Віктар АЖЫГАР у вольны час любіць майстраваць хатнія прылады.

Фота С. КРЫЦКАГА.





## З БЕЛАРУСКІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ

Выданне нацыянальных календароў на Беларусі можна лічыць адной з усталяваных традыцый нашага друку. Вытокі яе мы знаходзім яшчэ ў «Пасхаліі» — заключнай частцы «Малой падарожнай кніжкі» (1522 год, Вільня) выдатнага ўсходнеславянскага першадрукара, філосафа-гуманіста і асветніка Францішка Скарыны. І вось сёлета, у юбілейны Скарынаў год, выдавецтва «Полымя» выпусціла цудоўна аформлены буйнафарматны насценны каляндар «Шляхамі Францыска Скарыны».

Беларускай Скарыніяне прысвечана не адна сотня натхнёных даследаванняў, мноства адметных мастацкіх твораў. Але дастаткова нават павярхоўнага знаёмства з новым календаром, каб адразу пераканацца, што такога выдання яшчэ не было ніколі: перад намі аб'ектыўная Скарынінская мікраэнцыклапедыя і адначасова — узнёслы летапіс жыцця і змагання выдатнага сына беларускага народа, аднаго з тытанаў еўрапейскага Рэнесанса.




Разглядаючы дасканалыя каляровыя ілюстрацыі (краявіды мемарыяльных Скарынінскіх мясцін, багаты іканаграфічны, партрэтны, геральдычны беларускі і заходнееўрапейскі матэрыял), мы разам з нашым земляком-асветнікам падарожнічаем у часе: пераносімся на радзіму Скарыны, у славуты Полацк канца XV — пачатку XVI стагоддзяў, бачым слынны універсітэцкі горад Кракаў — Скарынінскую альма-матэр, сустракаемся з рэаліямі Даніі, Галандыі, Італіі, Чэхіі, Вялікага княства Літоўскага — краін, з якімі быў непарыўна звязаны жыццёвы і творчы лёс Францішка Скарыны.

Сучасная Скарыніяна слушна лічыцца грунтоўна распрацаванай, характар новага выдання — даведачны. Але ў календары, тым не менш, маюцца істотныя навацыі, якія без перабольшання мяжуюць з адкрыццямі. Так, здаецца, упершыню зроблена спроба ўзнавіць паводле ўсіх вядомых айчынных і замежных крыніц генеалагічнае дрэва Скарыны. Упершыню таксама ажыццёўлена рэканструкцыя герба сталіцы Вялікага княства Літоўскага — Вільні часоў Скарыны. Але сапраўднай нечаканасцю стала, нарэшце, першая, вельмі арыгінальная, даволі абгрунтаваная спроба разгадаць таямніцы асабістага герба першадрукара. Доказна сцвярджаецца, што сонца і месяц на Скарынінскім гербе так ці інакш звязаны з Даніяй, дзе Скарына нейкі перыяд быў каралеўскім сакратаром, і дзе ён, магчыма, вучыўся ў дацкага першадрукара Готфрыда ван Глемена.

Два словы пра аўтара. Анатоль Цітоў — выкладчык Мінскага інстытута культуры, вядомы ў рэспубліцы спецыяліст па сярэдневяковай беларускай геральдыцы і сфрагістыцы (дапаможная гістарычная дысцыпліна, што вывучае старажытныя пячаткі), аўтар манаграфіі «Гарадская геральдыка Беларусі» (1989 год), шматлікіх артыкулаў, прысвечаных беларускай даўніне.

Каляндар «Шляхамі Францыска Скарыны» (тэкст на беларускай, рускай і англійскай мовах) адраджае старую і добрую традыцыю беларускага друку. Гэта цудоўны падарунак усім, хто адчувае кроўную еднасць з беларускай нацыянальнай спадчынай.

Мар'ян ЗАЙЦАЎ.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца **КАСЦЮК Уладзімір Фёдаравіч**, 1935 года нараджэння, які ў 1942 годзе быў вывезены з Архангельскай вобласці ў Паўночную Амерыку. З 1970 да 1976 года з ім вялася перапіска, з якой было вядома, што ён разам з сям'ёй (жонкай і дзвюма дочкамі) жыў па наступным адрасе:

5270-18 ave, RŚMT. Ap. 1, Montreal, Canada.

Яго шукае маці **КАСЦЮК Алена Сцяпанаўна.**

Просьба да ўсіх, хто можа дапамагчы ў пошуках, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу:

**225151, БССР,**
**Брэсцкая вобласць, Пружанскі раён,**
**п/а Юндзічы, вёска Кавалі**
**КАСЦЮК Алене Сцяпанаўне.**

**ЗІМНІЦКІ Уладзімір Антонавіч** шукае свайго брата **ЗІМНІЦКАГА Яна Антонавіча,** які нарадзіўся ў 1916 годзе ў вёсцы Мікашэвічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. У час другой сусветнай вайны ён служыў у польскай арміі, потым апынуўся ў Англіі, а адтуль перасяліўся ў Аргенціну ў г. Буэнас-Айрэс. Некаторы час Ян Зімніцкі падтрымліваў перапіску з братам, але яго лісты згубіліся, і сувязь з роднымі перапынілася.

Вялікая просьба да тых, каму вядома пра лёс названай асобы, паведаміць у рэдакцыю ці па адрасу:

**231807, БССР,**
**Гродзенская вобл.,**
**Слонімскі раён,**
**п/а Азярніца, вёска Мыслова**
**ЗІМНІЦКАМУ Уладзіміру Антонавічу.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 26.